



«Беларусь» гуляе няроўна.

Пачаўся асенні сезон

На раздарожжы

Васіль БУРНОСАЎ

# ДАСЛЕДАВАННЕ ПІША ПАЭТ

НЯДАЎНА я прачытаў у газеце артыкул «Ці ўсё мы ведаем пра Скарыну?» — і само гэтае пытанне выклікала ў мяне яшчэ цэлы шэраг пытанняў падобнага ж характару. А ці ўсё мы ведаем пра выдатных дзеячоў беларускай культуры далёкага мінулага Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага? А ці сапраўды ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года Францішак Багушэвіч? А хто аўтар «Тараса на Парнасе»?

І яшчэ падумаў аб тым, што калі б падобныя пытанні ў адносінах да нашай роднай літаратуры можна было ставіць толькі да падзей далёкага гістарычнага перыяду, то тут яшчэ як быццам можна спаслацца на даўніну часу, на афіцыйныя перашкоды, што існавалі да Кастрычніка 1917 года, адносна вывучэння праблем культуры беларускага народа.

Але як ні дзіўна, а гэтае «ці ўсё мы ведаем?» узнікае і тады, калі мы звяртаемся да фактаў і падзей, удзельнікамі якіх былі людзі, якія зараз у росквіце сваіх жыццёвых і творчых сіл.

Сапраўды, што ведалі мы аж да апошняга часу аб літаратурным працэсе ў Беларусі ў першы паслярэвалюцыйны перыяд, у перыяд дваццатых, пачатку трыццатых гадоў? Грубейшыя парушэнні рэвалюцыйнай законнасці ў перыяд культу Сталіна мелі трагічны вынік для лёсу вялікага атрада нашых пісьменнікаў. На цэлыя дзесяцігоддзі была выкраслена і іх творчасць. Пасля выкрыцця культу асобы, калі неба стала чыстым над усімі прасторамі нашага жыцця, у тым ліку і над нівай літаратуры, у нас ужо нямала зроблена для ўзнаўлення аб'ектыўнай карціны літаратурнага працэсу. Тут перш за ўсё мае становучае значэнне выданне твораў рэабілітаваных пісьменнікаў, з'яўленне артыкулаў аб іх жыццёвым і творчым шляху.

Але для стварэння праўдзівай карціны жывога літаратурнага працэсу неабходны грунтоўныя, смелыя даследаванні аб сутнасці гэтага працэсу, аб тэндэнцыях яго развіцця. І ў гэтым плане на адно з галоўных месц высоўваецца праўдзівае, аб'ектыўнае асвятленне ўзнікнення і дзейнасці літаратурных арганізацый і груповак у Беларусі ад першых паслярэвалюцыйных год аж да стварэння Саюза пісьменнікаў БССР. «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», БелАПП, пралетарска-сялянская літаратурная суполка «Пробліск», «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна». За гэтымі назвамі — кіпенне і змаганне вялікіх грамадскіх і грамадзянскіх страсцей, барацьба, спрэчкі, непрымірымыя тэндэнцыі.

Аб літаратурных арганізацыях у нас часцей за ўсё маўчалі, а калі і ўспаміналі іх, дык толькі, каб яшчэ раз напомніць, што «Маладняк» ці «Узвышша» былі бог ведае чым. Аб'ектыўны аналіз падмяняўся грубай лаянкай.

Праўда, за апошні час нашы даследчыкі - літаратуразнаўцы зрабілі нямала ў аднаўленні ісціны адносна некаторых літаратурных з'яў. З прац Алеся Адамовіча, Навума Перкіна, Юліяна Пшыркова і іншых даследчыкаў чытач даведаецца шмат цікавага, праўдзівага, у тым ліку і пра літаратурныя арганізацыі «Маладняк» і «Узвышша».

Але хаця гэтыя і іншыя даследчыкі і звярталіся да літаратурных арганізацый дваццатых гадоў у Беларусі, іх працы ўсё ж не даюць усебаковага асвятлення гісторыі гэтых арганізацый, характарыстыкі творчасці іх удзельнікаў, не прасочваюць складанасці і супярэчлівасці, з якімі там падыходзілі да вырашэння ідэйна-грамадскіх і эстэтычных праблем.

А такі ўсебаковы аналіз дзейнасці гэтых арганізацый, добрасумленны і цвярозы, нам вельмі патрэбны, бо пакуль яго не будзе, у нас непазбежны крайнасці, пры якіх можна збіцца на замазванне ўсялякіх ідэйна-грамадскіх супярэчнасцей, на ўседараванне ідэалагічных памылак.

Увесь гэты роздум узнік у мяне пасля таго, як я прачытаў нядаўна выдадзеную кніжку Ніла Гілевіча пра арганізацыю «Маладняк» і маладнякоўскую паэзію.

З'яўляючыся сам паэтам, ведаючы законы развіцця паэзіі, яе месца ў чалавечым грамадстве, адчуваючы яе ў жывых, непасрэдных праявах, даследчык своеасабліва паказвае багатую спадчыну маладнякоўцаў.

Аўтар раскрывае грамадскія карэнні і вытокі «Маладняка» як адной з самых масавых літаратурных арганізацый, на долю якіх выпала высокая місія класці першыя цагліны ў велічны будынак літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

Узнікненне «Маладняка» было заканамернай з'явай і яркім сведчаннем абуджэння талентаў з асяроддзя працоўных мас Беларусі. Аб значэнні і ролі «Маладняка» добра сказана ў прывітанні Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ў 1926 годзе. «Самае каштоўнае ў «Маладняку» — гэта тое, — гаворыцца ў прывітанні, — што «Маладняк» з'яўляецца шырокай арганізацыяй, якая ўцягнула ў свае рады шмат рэвалюцыйных сіл рабочых і сялян, што ўся літаратурная і выхаваўчая праца «Маладняка» і маладнякоўцаў шчыльна ўвязваецца з палітычнай працаю і барацьбой рабочага класа і сялянства, камсамола, Камуністычнай партыі».

З кнігі Ніла Гілевіча мы даведаліся, які велізарны размах набыла дзейнасць «Маладняка» як па ўцягванню ў творчую работу здольных людзей з асяроддзя рабочых і сялян, так і па прапагандзе мастацкай літаратуры, палітыкі партыі. Аб вялікай папулярнасці «Маладняка» ў масах сведчыць хаця б той факт, што яго філіялы існавалі і праводзілі актыўную работу не толькі ва ўсіх гарадах і буйных раённых цэнтрах Беларусі, але нават і ў многіх вёсках.

Калі знаёмішся з імёнамі пісьменнікаў, якія ўваходзілі ў «Маладняк», то робіцца відавочным, што абсалютная большасць пісьменнікаў рэспублікі, творчая дзейнасць якіх распачыналася ў дваццатых гадах, выйшла з «Маладняка». Толькі тры чалавекі — Янка Купала, Якуб Колас і Цішка Гартны — не былі членамі «Маладняка». Бядуля ж адзін час быў маладнякоўцам.

За кожнай старонкай даследавання адчуваюцца горы адшуканага ў архівах, добра вывучанага і сістэматызаванага фактычнага і дакументальнага матэрыялу. Аўтар здолеў адабраць з гэтага матэрыялу цікавае і патрэбнае для аргументацыі. А гэта аргументацыя тут вельмі неабходна, бо Гілевіч першы з даследчыкаў з такой грунтоўнасцю і смеласцю пераацэньвае няправільна ацэненыя каштоўнасці. Хіба не цікава прачытаць прыведзеныя ў даследаванні вытрымкі з прамовы былога маладнякоўца Уладзіміра Дубоўкі на І Усебеларускім з'ездзе «Маладняка». Асабліва карысна пазнаёміцца з такімі з'явамі, бо людзям у саракавых і пяцідзесятых гадах убівалі ў вушы аб недаравальных грахах Дубоўкі. А Дубоўка ў сваёй прамове на з'ездзе «Маладняка» вельмі акрэслена, па-рэвалюцыйнаму вызначыў грамадскія пазіцыі гэтай арганізацыі: «Аснова маладнякоўскай паэзіі, компас — пралетарская ідэалогія. Ідэалагічна вытрыманы змест — правіла». Маладнякоўцы, падкрэсліваў Дубоўка, «павінны імкнуцца надалей дапамагаць сталёваму правадыру рабочых і сялян — Камуністычнай партыі ў будове сацыялізма, у будове сацыялістычнай культуры».

Гэтых высокіх грамадскіх прынцыпаў маладнякоўцы ў першыя гады строга прытрымліваліся, услаўляючы веліч сацыялістычнай рэвалюцыі, прыход на беларускую зямлю новага жыцця.

З аналізу творчасці арганізатара «Маладняка» Міхася Чарота, сатырыка Кандрата Крапівы (таго перыяду, калі ён уваходзіў у гэтую арганізацыю) і многіх іншых маладнякоўцаў відаць, што іх паэзія мела ярка выражаны грамадзянскі тэмперамент, што самі паэты настойліва шукалі новых выяўленчых сродкаў, імкнуліся ўдасканаліць сваё майстэрства.

У той жа час аўтар смела і бескампрамісна ўскрывае памылкі «Маладняка», якія выяўляліся, у прыватнасці, у пагардзе да культурнай спадчыны мінулага, сектанцтве, нежаданні сур'ёзна вучыцца. Цяпер нават смешна чытаць тое, што некаторымі маладнякоўскімі крытыкамі гаварылася ўголас і нават друкавалася на старонках часопіса «Маладняк». Няёмка за тую пампезную амбіцыю, з якой гэтыя крытыкі супрацьставілі слабыя, вучнёўскія вершы пачынаючых аўтараў класічным творам Янкі Купалы і Якуба Коласа. Паказваючы на пераканаўчых прыкладах, з якой цярплівасцю, педагагічным тактам Якуб Колас, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля імкнуліся аберагчы маладнякоўцаў ад памылак, як трапна яны ўскрывалі безгрунтоўнасць і пустату іх «вірлівых неўтаймаваных пачуццяў», гучную рыфмаваную «бурапену», аўтар кніжкі правільна вызначае ролю старэйшых майстроў слова ў тагачасным літаратурным працэсе. «Пры гэтым вельмі важна падкрэсліць, — піша Гілевіч, — што Я. Купала, Я. Колас і іх паплечнікі—Ц. Гартны, Зм. Бядуля, Я. Журба, А. Гурло — пасля перамогі Кастрычніка сталі жывым увасабленнем традыцыі, увасабленнем пераемнасці і арганічнай сувязі двух перыядаў у развіцці беларускай нацыянальнай літаратуры — дарэвалюцыйнага і савецкага. Заадно з прадстаўнікамі маладога пакалення, якое распачало сваю творчую дзейнасць у гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, гэтым пісьменнікам выпала на долю закладваць асновы беларускай савецкай літаратуры — літаратуры сацыялістычнага рэалізму».

Асабісты вопыт паэта дапамог даследчыку ўбачыць, што за так званым наватарствам многіх маладнякоўцаў нярэдка стаялі рэакцыйныя буржуазныя плыні мастацтва, такія, як імажынізм, фармалізм. Калі ў першы перыяд дзейнасці «Маладняка» «бурлівы карнавал» іх пачуццяў, баявы, мажорны тон увасабляўся ў вершах, якія і да гэтага часу не страцілі свайго значэння, то ў далейшым гэты «бурлівы карнавал» мала-памалу траціць сваю энергію, ператвараецца ў «блакітную мляўкасць», у ноткі песімістычнага стогну, роспачы і енку.

Даследчык правільна ўскрывае прычыны крызісу маладнякоўскай паэзіі, з якога так нялёгка было выходзіць многім маладнякоўцам, асабліва такім, як Я. Пушча, А. Дудар, Ул. Хадыка, Т. Кляшторны. Вось як даследчык ускрывае прычыны крызісу ў паэзіі Алеся Дудара: «Пэўнае ажыўленне капіталістычных элементаў ва ўмовах нэпа, цяжкасці сацыялістычнага будаўніцтва, рабочае, будзённае «аблічча» новай рэчаіснасці на нейкі час пахіснула глебу пад нагамі паэта, выклікала разгубленасць і апатыю. Паэт не здолеў пранікнуць глыбока ў сутнасць жыццёвых працэсаў. Яму здавалася, што ўсё гераічнае, прыгожае, цікавае засталося ў мінулым, а цяпер толькі «сон залацісты», што «слепіць скронь», і пагэтаму «усё роўна ўжо — ці жыць ці перастаць».

Такое вытлумачэнне прычыны страты маладнякоўцамі «бурлівага аптымізму» вельмі правільнае як з гістарычнага, так і з псіхалагічнага пункту гледжання. Адсутнасць жыццёвага вопыту, ідэйнай загартоўкі, абмежаванасць сялянскай псіхалогіі не давалі магчымасці маладнякоўцам правільна разабрацца ў жыццёвых, штодзённых з'явах тады, калі перыяд «чырвонагвардзейскай атакі» на капітал скончыўся і наступілі звычайныя будні пераадолення неймаверных цяжкасцей, выкліканых вайной і разбурэннямі, арганізацыі народнай гаспадаркі.

У заключным раздзеле кнігі «Новая эпоха, новы свет, новы герой», аўтар паказвае, як таленавітыя паэты-маладнякоўцы пазбаўляліся ад сваіх памылак, творча перабудоўваліся. Вострая, прынцыповая крытыка грамадскасці, грандыёзныя перамогі на франтах сацыялістычнага будаўніцтва дапамаглі маладнякоўцам А. Александровічу, Ул. Дубоўку, А. Дудару, П. Глебку, Ул. Хадыку, А. Звонаку знайсці трывалую глебу для сваёй творчасці.

Мы ўжо гаварылі, што даследаванне Ніла Гілевіча смелае па сваіх вывадах, па крытыцы недахопаў у творчасці маладнякоўцаў. Але аўтар часам як бы пачынае раптам насцярожвацца, нават апраўдвацца за свае вывады. «Думаецца, — піша Гілевіч, — што мы не зрабілі памылкі, удзяліўшы столькі ўвагі тым нездаровым, хваравітым з'явам, што мелі месца ў маладой беларускай паэзіі дваццатых гадоў. Наадварот, было б памылковым замоўчваць іх або не прыдаваць ім значэння. Ігнараваць рэальныя факты, не лічыцца з імі — значыць сказіць праўдзівы малюнак развіцця беларускай савецкай паэзіі, паказаць яго ў няпоўным, аднабаковым асвятленні» (стар. 129).

І ўсё ж заўважаецца, што аўтар быў у ацэнцы некаторых фактаў настолькі асцярожным, што нават вырашыў не называць іх сваімі імёнамі ці проста абысці. Ён, напрыклад, нідзе не дае ацэнкі такім ідэйна-памылковым вершам Язэпа Пушчы, як «Лісты да сабакі». Абыходзіць ён і іншыя факты, з-за якіх у свой час былі бурныя дыскусіі, спрэчкі.

Дачытаўшы апошнія абзацы цікавай, пафасна напісанай кнігі «Акрылёная рэвалюцыяй», узбагачаны яе думкамі, доказамі, вывадамі, робіш вывад: як бы добра было, каб кожны даследчык паэзіі, з'яўляўся хоць у некаторай меры і паэтам.

---

Н. Гілевіч. «Акрылёная рэвалюцыяй». Выдавецтва Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР. Мінск, 1962 г.

# ЧАСОПІСЫ Ў ВЕРАСНІ

## «ПОЛЫМЯ»

Верасвёўскі нумар часопіса адкрываецца нізкай вершаў Сяргея Грахоўскага. Паэзія прадстаўлена таксама паэмай Пятра Прыходзькі «Вішнёвы агонь» і вершамі Генадзя Кляўко, Мікалая Браўна (пераклад з рускай), Найдзена Вылчава (пераклад з балгарскай).

У нумары змяшчаецца п'еса А. Маўзона «Пад адным небам», працяг «Нататак партызана» А. Карпюка.

Да 80-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа часопіс друкуе артыкул М. Лужаніна «Колас расказвае пра сябе».

У раздзеле «Літаратурныя партрэты» з артыкулам пра М. Васілька выступае Ул. Калеснік. Бібліяграфія ў нумары прадстаўлена рэцэнзіямі Я. Семіжона «Запрашэнне ў свет паэтычнага» і І. Кудраўцава «Агнём гартаваныя».

З публіцыстыкі ў нумары змешчаны нарыс В. Панамарова «Паразіты».

## «МАЛАДОСЦЬ»

З мастацкіх твораў у дзевятым нумары «Маладосці» публікуюцца працяг рамана І. Навуменкі «Сасна ля дарогі», апавяданні М. Капыловіча, вершы Ул. Паўлава, Г. Бураўкіна, М. Лісоўскага.

Д. Бугаёў выступае з артыкулам, які прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння М. Танка.

Пад рубрыкай «На арбіту камунізма» друкуецца нарыс А. Сінілава «Людзі. іх будні».

Да 150-годдзя Айчыннай вайны 1812 года часопіс публікуе нататкі І. Клаза і А. Мартынава.

Раздзел «Навука і культура» прадстаўлены ў нумары рэпартажамі В. Говара «Салаўі будуць спяваць» і Ул. Юрэвіча «Горад кнігі».

Змяшчаюцца таксама ў часопісе пісьмы Якуба Коласа.

Пад рубрыкай «З блакнота падарожніка» друкуюцца нататкі В. Цімафеевай «Довиждане, България! — Да пабачэння, Балгарыя!»

Ёсць у нумары і раздзел гумару і сатыры, у якім змешчана гумарэска А. Шашкова «Тонкі разлік».

# Новыя дакументы пра М. І. Глінку

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі ў паперах канцылярыі віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара выяўлена справа аб выдачы заграянічнага пашпарта Міхаілу Іванавічу Глінку, які адпраўляўся ў заграянічнае падарожжа.

Час пакінуў на дакументах прыкметныя сляды, пажоўкла папера, месцамі выцвілі радкі. Але справа выклікае вялікае хваляванне: у ёй верагодныя звесткі, звязаныя з імем нашага вялікага суайчынніка, музыка якога захапляе сэрцы мільёнаў людзей.

Для атрымання пашпарта Глінку прыйшлося разам з прашэннем прадставіць пасведчанне родных і ўплывовых знаёмых аб тым, што «адстаўны тытулярны саветнік Міхаіл Іванаў сын Глінка ніякіх спраў не мае, пад судом і следствам, а таксама вінаватым нікому не значыцца, таму, згодна з жаданнем яго, можа бесперашкодна адправіцца для вылячэння апанаванай яго хваробы ў чужыя краі тэрмінам на тры гады». На асобным лісце прадстаўлена з засведчаным подпісам смаленскага віцэ-губернатара апісанне вонкавага выгляду Глінкі: «Год—25, рост малы, валасы і бровы чорныя, вочы карыя, нос, рот і падбародак умераныя, твар белы, на левым павеку невялікая бародаўка і віхор на правым баку галавы».

У першай заграянічнай паездцы Міхаіла Іванавіча суправаджаў прыгонны яго бацькі Аляксей Ульянаў. Глінка даў асобную распіску ў тым, што «прыгонны чалавек Аляксей Ульянаў вернецца абавязкова ў Расію, у адваротным жа выпадку падвяргаю сябе законнай адказнасці з тым толькі, калі не напаткае яго па дарозе хвароба або сама смерць».

У канцы сакавіка 1830 года генерал-губернатар віцебскі, магілёўскі і смаленскі данёс «яго імператарскай вялікасці», што 17 сакавіка 1830 года «адстаўному тытулярнаму саветніку Міхаілу Іванаву сыну Глінку, які адпраўляецца для вылячэння сваёй хваробы ў Германію і Італію з прыгонным бацькі свайго дваровым чалавекам Аляксеем Ульянавым з вяртаннем адтуль у Расію на месца пражывання, тэрмінам на тры гады адпраўлен заграянічны пашпарт».

Праз тры гады пасля заканчэння тэрміну гэтага пашпарта Глінка, стан здароўя якога працягваў заставацца дрэнным, звярнуўся да улад з просьбай выдаць новы заграянічны пашпарт на два гады. У справе ёсць медыцынскае заключэнне ўрача Малфаці, заверанае сакратаром пасольства, аб неабходнасці далейшага знаходжання Глінкі за граніцай. 5 лістапада 1833 года Міхаілу Іванавічу быў выдадзен заграянічны пашпарт за № 1829 тэрмінам на два гады. Аднак раптоўная смерць бацькі прымусіла яго вярнуцца ў Расію.

У ліпені 1834 года М. І. Глінка вярнуў гэты пашпарт у канцылярыю генерал-губернатара з просьбай выдаць новы. У справе захаваліся пашпарт, які на працягу некалькіх месяцаў знаходзіўся ў Глінкі, і прашэнне.

Заканчваецца справа прашэннем маці кампазітара генерал-губернатару аб вяртанні «атэстата, выдадзенага сыну пры звальненні з канцылярыі шляхоў зносін ліпеня 28 дня 1828 года».

(БЕЛТА).

# Выйшлі з друку

У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшлі з друку і паступілі ў продаж наступныя кнігі мастацкай і музычнай літаратуры:

ЯКУБ КОЛАС. Збор твораў у дванаццаці тамах. Том 6. Новая зямля. Сымон-музыка. Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі М. Мушынскага. Мастак Г. Клікушын. Тыраж 3.100 экз., стар. 540. Цана 1 руб. 68 кап.

ЯНКА БРЫЛЬ. Працяг размовы. Апавяданні, замалёўкі, нарысы. Мастак П. Калінін. Тыраж 7 тыс. экз., стар. 224. Цана 20 кап.

МІХАСЬ МАШАРА. Мая азёрная краіна. Выбранае. Прадмова Н. Гілевіча. Мастак В. Харэўскі. Тыраж 3.500 экз., стар. 492. Цана 98 кап.

МІКОЛА КОРЗУН. Жывы куток. Апавяданні. Для малодшага ўзросту. Малюнкі М. Апекунова. Тыраж 10 тыс. экз., стар. 32. Цана 5 кап.

РЫГОР ХАЦКЕВІЧ. Наш пяты клас. Вершы. Для сярэдняга ўзросту. Мастак П. Уласевіч. Тыраж 8 тыс. экз., стар. 40. Цана 7 кап.

АЛЯКСЕЙ ПЫСІН. Матылёчкі-матылі. Вершы. Для малодшага ўзросту. Мастак Л. Замах. Тыраж 8 тыс. экз., стар. 32. Цана 4 кап.

І. БАХ. Маленькія прэлюдыі і фугі. Для фартэпіяна. Рэдакцыя К. Чэрні. На рускай мове. Вокладка В. Жыжэнкі. Тыраж 10 тыс. экз., стар. 48. Цана 71 кап.

К. ЧЭРНІ. Школа бегласці для фартэпіяна. Сшытак 1-ы. Мастак Ф. Навікоўскі. Тыраж 10 тыс. экз., стар. 24. Цана 29 кап.

Д. КАМІНСКІ. Тры п'есы для фартэпіяна. На тэмы беларускіх народных песень. Мастак А. Лісічнікаў. Тыраж 2.500 экз., стар. 16. Цана 20 кап.

ВЕНГЕРСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ. Для сярэдняга ўзросту. Пераклад з рускай мовы І. Сакалоўскага. Малюнкі І. Някрасава. Тыраж 9 тыс. экз., стар. 188. Цана 49 кап.

А. БАГАТЫРОЎ. Рамансы. Словы Я. Купалы. Мастак А. Лісічнікаў. Тыраж 500 экз., стар. 32. Цана 49 кап.

П. ПАДКАВЫРАЎ. Прэлюдыі для фартэпіяна. Мастак А. Лісічнікаў. Тыраж 2 тыс. экз., стар. 16. Цана 22 кап.

# Пасля таго, як выступіла наша газета

25 мая г. г. у газеце «Літаратура і мастацтва» быў змешчан артыкул «Ордэр на знявагу». У ім гаварылася аб кепскіх кватэрных умовах, у якіх жыў удзельнік Айчыннай вайны, віцебскі шафёр, інвалід П. М. Бруеў, а таксама расказвалася пра бюракратычную цаганіну, з якой тав. Брueву давялося сутыкнуцца пры вырашэнні яго жыллёвага пытання ў Акцябрскім райвыканкоме г. Віцебска.

Віцебскі абком КПБ пасля надрукавання артыкула даручыў выканкому гарсавета, улічваючы кепскае здароўе т. Бруева, тэрмінова прадаставіць яму і яго сям'і асобную кватэру. Рэдакцыя атрымала пісьмо ад сакратара выканкома гарсавета Н. Красноўскага, у якім паведамляецца, што тав. Бруеў атрымаў кватэру з двух пакояў.

Аркадзь МАРЦІНОВІЧ

КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

# Падслуханыя гісторыі

## Стары і малады

На лаўцы ў скверы сядзелі двое мужчын. Калі я глянуў на аднаго і на другога, дык адразу падумаў: «Што іх звяло быць разам?» Вельмі ж не падобныя, супрацьлеглыя яны.

Адзін — ужо ў гадах, трохі таўставаты, сціпла апрануты; у выразе яго твару мне здалося нешта трагічнае, нязбытнае; от прамільгне на ім ветлая, прыязная ўсмешка і ў адно ж імгненне, як пасля нейкай канвульсіі, твар стане суровы, нават страшны, але зноў жа — на адно толькі імгненне... Гэты выраз твару яшчэ больш старыў чалавека.

Другі — юнак з кудлатай шавялюрай і з паклычанай папяросай на пагардліва адтапыранай ніжняй губе; ён заклаў нагу на нагу, адкінуўся на спінку лаўкі, як быццам разлёгся недзе дома на мяккай канапе.

Я стаў рабіць здагадкі пра лёс чалавека з трагічным тварам; мабыць, ён перажыў гора, можа, страціў некага блізкага?

У гэты час па алеі прайшла дзяўчына з такіх, пра каго гавораць: «Кроў з малаком».

Чалавек з трагічным тварам правёў яе позіркам і міжволі ўскпікнуў:

— Ах, якая слаўная!..

Юнак таксама не прамінуў глянуць на дзяўчыну, але ў адказ свайму субяседніку прамовіў:

— А я дык падумаў: якая яна будзе праз дваццаць год? Худая, як трэска, ці тоўстая, як бочка?..

Чалавек з трагічным тварам глянуў на юнака, сказаў:

— Ты, брат, старэй за мяне...

І мне чамусьці стала радасна за гэтага чалавека, што ён не страціў захаплення харастаўм, а значыць, і жыццём.

## Паэт

Праслаўлены старшыня аднаго беларускага калгаса прыехаў на далёкі чарнаморскі курорт.

Гэта было на мяжы восені і зімы.

Я сустракаў на курортах і прафесараў, і міністраў, і паэтаў, іх, вядома, паважалі; пагутарыць з імі адпачываючыя любілі, але ніколі не бачыў я, каб да каго так гарнуліся людзі, як да гэтага старшыні калгаса. Толькі ён прысядзе ў фае ці на лаўцы ў парку, як ужо яго абкружыць цэлы натоўп.

І пачыналася гутарка, якая пагражала сарваць працэдуры многім хворым...

Вы думаеце, гутарка ішла пра хваробы ці лекі? Ці мо, думаеце, вострыя курортныя анекдоты забаўлялі людзей?..

От слухаю аднойчы:

— Калгас — гэта такі арэшак, які не лёгка раскусіць. Трэба не толькі ўмець, але і жадаць. І любіць зямлю. А зямля — яна, як дзяўчына, ухажора жадае. Але калі дзяўчыну можна ашукаць (знаходзяцца такія спяцы!), адну — ласкай, другую — хітрасцю, то зямлю не ашукаеш; ёй — дай, што трэба, тады толькі і яна дасць спаўна. А ў некаторых жа калгасах ёсць такія палеткі, што за многія гады ўгнойваліся хіба толькі жаўранкамі з неба...

Старшыня гаворыць няспешна, зусім ціха, але яго ўсе добра чуюць, бо ніхто і не варухнецца, як бы затаіўшы дыханне.

Я слухаю і думаю аб прыкмеце нашага часу: аб усенароднай увазе да сельскай гаспадаркі. І яшчэ — лаўлю сябе на думцы, што мне хочацца назваць гэтага мудрага і моцнага духам чалавека паэтам. Бо ўзняць, выпеставаць калгас, які славіцца на ўсю краіну, — гэта ж вялікае мастацтва, гэта ж праца, і талент, і натхненне.

## Што каму

У Дзень Перамогі мне выпала быць у дарозе.

У маленькі паштовы самалёцік нас села пяцёра: адна жанчына з яшчэ прыкметнымі слядамі былой пекнаты і чацвёра мужчын. Усе незнаёмыя. Праўда, мне адразу здалося, што жанчыну я некалі недзе бачыў.

У дарозе людзі паводзяць сябе па-рознаму: хто пазірае ў акно, хто ўнурыцца ў чытанне, а хто не можа маўчаць і з незнаёмымі. Урэшце, асвойтваюцца хутка. Так было і ў нас.

Чалавек сярэдніх год, з пратэзнай рукой у чорнай скуранай пальчатцы, дастаў газету, сказаў, прабягаючы вачыма першую старонку:

— Эх, гасцяваць бы цяпер, а не ў дарозе быць. Дзень жа які!..

І, мабыць, кожны з нас прыгадаў вайну, 1945 год, 9 мая...

Сівенькі дзядок у вялізных рагавых акулярах з уздыхам адклікнуўся:

— Не забыць, як чакалі таго дня... Чакалі дні і ночы, год за годам...

— Цяпер часам і не верыцца, што можна было перажыць такую вайну... І колькі людзей не перажыло...—Гэта азваўся трэці мужчына, у светлым капелюшы, са шрамамі на шчацэ і на шыі.

— Затое ж і свята было! Усюды! — сказаў я, успамінаючы вуліцы і плошчы таго дня, што нагадвалі мора людской радасці.

— Ну і цалаваліся ж тады, божа мой! — усклікнула жанчына.

«Што каму ўспамінаецца», — падумаў я і ўжо не сумняваўся, што сапраўды бачыў гэтую жанчыну восенню цяжкага 1942 года ў далёкім рускім гарадку Вязнікі, дзе я ляжаў у шпіталі. Яна тады была маладая і ўкрадкам, прыцемкамі прыходзіла да агароджы шпіталя, і мы, хто ўжо падужэў, падлячыў свае раны, куплялі часам у яе гарэлку. Прадавала яна не танна, здорава зарабляла на гэтым, але ж хіба ў такі час мы маглі шкадаваць грошай...

«Так, што каму», — яшчэ раз у думках сказаў я, і мне не хацелася прызнавацца гэтай жанчыне, што я яе ўспомніў.

## Сяброўкі

Таня і Нэля вучыліся разам у інстытуце і цяпер настаўнічаюць у адным горадзе. Яны сябравалі, часта наведвалі адна адну, хадзілі разам у кіно ці ў тэатр.

І вось яны згаварыліся паглядзець новы фільм. Таня купіла білеты і чакае. Нэлі няма. Так і не прыйшла. Таня занепакоілася, падумала, можа, што здарылася з Нэляй не пайшла і сама ў кіно, а накіравалася да Нэлі. Дома Нэлі не было.

Назаўтра Таня звоніць па тэлефоне Нэлі ў школу, пытаецца:

— Дзе ты дзелася ўчора, чаму не прыйшла?

— Ведаеш, Танюша, мяне запрасіла ў кіно Вераніка Аляксандраўна, я з ёю хадзіла...

Вераніка Аляксандраўна — завуч школы, дзе працуе Нэля.

Таня, нічога больш не сказаўшы, павесіла трубку.

## Канец дружбы

Паўлік і Аленка жывуць у адным доме. Яны і ўзросту аднаго: восенню пойдуць у першы клас. Дружба ў іх даўняя і моцная. Дом вялікі, стокватэрны, дзяцей — поўны двор, а Паўлік і Аленка найчасцей разам, ніхто ім больш не трэба.

І вось аднойчы Паўлік выходзіць на двор, Аленка стаіць ля пад'езда, Паўлік абмінае яе, адварочваючы галаву, хмурачы бровы. Я падыходжу, ціха пытаюся ў яго:

— Чаму ж ты, Паўлік, не азваўся да Аленкі? Ты ўжо не дружыш з ёю?

Ён схапіў мяне за крысо пінжака, пацягнуў, каб я нагнуўся, і зашаптаў мне на вуха:

— Ты ведаеш, што яна зрабіла?! Яна ў глуханямога спыталася: «Скажыце, колькі часу?» Хоць ведала, што ён глуханямы... Яна ж насміхалася над ім, праўда ж?..

## Чужыя браты

Максім Біруля пасля дваццаці гадоў службы на фронце вярнуўся ў родны горад. Тут у яго жыве брат Валерыян. Вядома, што Максім спыніўся ў брата. Але ўжо назаўтра стаў шукаць кватэру.

Я ведаў, што ў Валерыяна вялізны свой дом, і здзівіўся, што Максім нават і не пагасціў як след у роднага брата.

— Разумееш, не магу, — расказваў Максім. — От гаворым мы з ім аб жыцці-быцці, я і кажу, што трэба недзе прыпынак шукаць. «А ты ў мяне пакуль начуй»,— адказвае Валерыян. Разумееш: не жыві, а начуй! — Максім памаўчаў хвілінку і закончыў так: — Ну, ды я не з-за слова, хоць паганае слова таксама можа ўзбунтаваць кроў. Разумееш, убачыў, як жыве чалавек. Не на заробленыя грошы. Ён гандляр, ты ж ведаеш. А дом свой абгарадзіў высокім парканам, нават нідзе дзірачка не свіціцца. І гэта мне матросу, за такім парканам жыць? Амба!..

